# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Наваполацкай Рады БНФ

№ 2 (02) кастрычнік 1998 г. Грамадзка-палітычнае выданьне Полацкага краю


## Перамога будзе за намі!

Кастрычнік 1988 года назаўсёды ўвайшоў у аналы беларускай гісторыі. 19 кастрычніка таго году ў стольным Менску была ўтворана – упершыню за пасьляваенны час – нацыянальная дэмакратычная арганізацыя – Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне". Дзесяць гадоў таму многія з нас спадзяваліся, што шлях да незалежнасьці будзе кароткім і трыюмфальным. Мы думалі: варта толькі сьцінуць КПСС і Беларусь адродзіцца, зойме належнае месца ў шыхту эўрапейскіх краінаў. На яве, аднак, усё аказалася ня так, як думалі адраджэнцы. За 70 гадоў гвалту бальшавікам удалося ператварыць значную частку беларускага народа ў савецкі соцыюм – у людзей бяз мовы, без гісторыі, без традыцыяў, без нацыянальнай годнасьці. Сёньня соцыюм гэты пераважае ў грамадзтве й таму грамадзтва ня ў стане ўспрыняць ні дэмакратыі, ні рынку, ні нацыянальных каштоўнасьцяў – тых падставовых рэчаў, на якіх трымаецца Сьвет.

На працягу сваёй гісторыі многія нацыі зьведвалі ўзьлёты й падзеньні. Мы, беларусы, перакананыя, што гэты лад, і гэты чад – не назаўсёды. Наш Бог пакуль сьпіць, але ў хуткім часе мусіць прачнуцца.

Віншуючы сяброў і прыхільнікаў Фронту з 10-мі ўгодкамі БНФ мы ўголас прамаўляем: "Яшчэ нічога ня згублена. Барацьба за вольную й дэмакратычную Беларусь толькі пачынаецца. Перамога будзе за намі!"

Наваполацкая Рада БНФ "Адраджэньне"

**ПЕРАДРУК**

### Сьцяг над універсітэтам

Раніцай 19 кастрычніка студэнты і выкладчыкі Полацкага дзяржаўнага універсітэту, якія сьпяшаліся на лекцыі, убачылі карціну, мілую сэрцу любому сапраўднаму беларусу – над будынкам новага корпусу ўніверсітэту лунаў бел-чырвона-белы сьцяг.

Няўлоўны наваполацкі пасьлядоўнік неўміручай справы легендарнага Мірона працягвае шэраг сваіх акцыяў па ўшанаваньню нацыянальных беларускіх сімвалаў. Сваю апошнюю з гэткіх акцый ён, трэба разумець, прымеркаваў да дзесятых угодкаў утварэньня Беларускага Народнага Фронту.

### Малады Фронт дапамагае дзіцячаму дому

У мінулую нядзелю сваю чарговую акцыю правёў Наваполацкі аддзел Маладога Фронту. Праўда, яна была далёкай ад палітыкі.

Мясцовыя маладафронтаўцы завіталі ў Наваполацкі дашкольны дзіцячы дом, дзе правялі ўборку тэрыторыі, прычым, зрабілі гэта па сваёй уласнай ініцыятыве, без загадаў альбо гучных пастановаў. Гэтая акцыя стала працягам той дапамогі, якую мясцовыя фронтаўцы аказваюць дзецям-сіротам. Увесну гэтага году Наваполацкі Малады Фронт разам са сваімі старэйшымі таварышамі па руху БНФ перадаў у падарунак дзіцячаму дому вялікую колькасьць беларускіх кніжак. Зараз плануецца паўтарэньне той акцыі.

Дзеці – гэта наша будучыня... Наваполацкія "адраджэнцы" гэта ўжо добра зразумелі.

"Пагоня" 22 кастрычніка 1998г.

# *Віншуем !!!*



***З высокімі заробкамі***
***і дастойнымі пенсіямі***
***З нізкімі коштамі***
***З перамогай над мафіяй***
***З пастаянна стаячым беларускім рублём***

## Грамадзкая думка

***Нікога ня трэба пераконваць у тым, што дарогі й вуліцы нашага гораду на працягу апошняга году нагадвалі хутчэй палігоны нейкіх аўтамабільных заводаў, нават не пабаімся назваць – танкадромаў . Таму нас і не зьдзівілі словы, пачутыя ад ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, што гэтая зьява (варонкі на дарогах) нагадваюць ім Берлін 45-га году.***

## Хіт-парад–Супер–траса–Наваполацак'98

З гэтай нагоды мы вырашылі правесьці апытаньне з мэтай вызначыць "рэйтынг" Наваполацкіх трасаў. Мы зьвярнуліся да самых дасьведчаных – таксоўцаў гораду - з наступным пытаньнем: "Назавіце калі ласка тры найгоршыя ўчасткі дарог Наваполацка без уліку праведзеных рамонтных працаў, прымеркаваных да 40-годздзя нашага гораду".

Хацелася б яшчэ раз падзякаваць удзельнікам апытаньня за плённае супрацоўніцтва. Ніхто з кіроўцаў, якім было прапанавана адказаць на вышэйзгаданае пытаньне не адмовіўся даць адказы. Толькі ў двух выпадках давялося досыць доўга тлумачыць сэнс гэтае акцыі.

Усяго ў апытаньні узгадвалася 20 участкаў наваполацкіх дарог. Да пяцёркі "лепшых" трэба дадаць участак ад скрыжаваньня вуліц Маладзежная-Ктатарава (раён кінатэатру "Космас") да бальнічнага гарадка з 10-ці бальным вынікам. Астатнія 14 узгаданых участкаў набралў нязначную колькасьць балаў. Прычым амаль кожны апытаны пачынаў свае адказы прыблізна з адной фразы, што самае найгоршае асфальтавае пакрыцьцё можна знайсьці літаральна ва усіх дварох нашага гораду. І з гэтым цяжка не пагадзіцца.

Умовы вызначэньня рэйтынгу трасаў былі наступныя: кожны з кіроўцаў павінен быў назваць тры найгоршыя ўчасткі ў парадку ступені іх разьбітасьці. Самы горшы участак (першае месца) атрымліваў 3 балы. наступны – 2 балы і адпаведна трэці ўзгаданы кавалак трасы – 1 бал.

Для нас жа сэнс гэтага мерапрыемства быў такім, каб засяродзіць увагу грамадзкасьці на адной з праблемаў жыцьця нашага гораду й адначасна непасрэдна пазнаёміцца з думкамі самых актыўных удзельнікаў руху, а магчыма й нагадаць уладам гораду аб набалелых пытаньнях. Бо часта нашыя, так бы мовіць "улады", бачаць горад толькі праз вокны выканкаму, а да голасу грамадзянаў, якія плацяць падаткі, у тым ліку і на ўтрыманьне ўладных структураў, прыслухоўваюцца ўсё меней.

А вось як непасрэдна выглядае пяцёрка лідараў нашага апытаньня:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | **вул.Якуба Коласа ад першай "S-кі" (так званая "набережная ") да дому N76** | 35 |
| 2. | **Перамычка ўздоўж вучэбнага корпусу завода "Вымяральнік" ад вул.Маладзёжная да трамвайнага кальца** | 29 |
| 3. | **Ад скрыжаваньня вул.Маладзёжная-Дружбы ўздоўж дамоў NN135, 135а** | 24 |
| 4. | **Участак вул.Якуба Коласа ўздоўж гатэлю "Нафтан" (так званая "набережная ") да канца "Кітайскай сьцяны".** | 21 |
| 5. | **Ад пачатку "Хутару" па вул.Маладзёжная да павароту на "Прастакващына"** | 18 |

Пры падсумаваньні ўсіх адказаў апытаньня намі было заўважана, што ў самым дрэнным стане знаходздзяцца дарогі аддаленыя ад цэнтральнай часткі гораду.

Часткова, напярэдадні сьвяткаваньня 40-ка годзьдзя Наваполацка, вуліцы гораду пакрылі слоем новага асфальту, прычым, як звычайна, спачатку дождж, а потым асфальт. Будзем спадзявацца, што пры такой тэхналёгіі гэтае пакрыцьце захаваецца хаця б да наступнай вясны. Трэба адзначыць, што самі рамонтныя працы вядуцца па нейкай сакрэтнай, нікому не зразумелай сьхеме, у асноўным менавіта там, дзе тэарэтычна магчыма зьяўленьне "паважаных гасьцей".

А зараз паспрабуем пералічыць матэрыяльныя й маральныя страты, якія нясуць ня толькі кіроўцы, але й проста жыхары нашага гораду.

На рахунак матэрыяльных стратаў мы аднесьлі б найперш вялізарны сьпіс запчастак, неабходных для замены на любімым аўтамабілі пасьля карыстаньня наваполацкімі аўтабанамі й, безумоўна, вялікі расход паліва, што вядзе як да дадатковых грашовых стратаў, так і, што самае галоўнае, не лепшым чынам адбіваецца на экалагічным стане гораду. Да ўсяго гэта далучаецца згублены час на рамонт аўто, сапсаваны настрой, нэрвовыя хваробы й стрэсы з-за ўзьнікненьня разнастайных аварыйных сітуацыяў, немагчымасьць досыць хутка патрапіць у неабходнае месца...

Усе разумеюць, што за гэты бардак на дарогах нехта павінен несьці адказнасьць. Але пры сёньняшнім сістэме ўлады марна спадзявацца знайсьці вінаватага. Любыя апэляцыі й пратэсты да кіраўнікоў гораду застануцца непачутымі, бо ў іх свае пляны, зьмяніць якія зможа толькі абсалютна новая, дэмакратычнаабраная улада.

*апытаньне праводзіў Уладзімір Гацкі.*
*матэр'ял апрацаваны й падрыхтаваны*
*Уладзімірам Гацкім і*
*Уладзімірам Кунцэвічам*



# МАЛАДЫ ФРОНТ



**БЕЛАРУСЬ — ГЭТА СЬВЯТОЕ**

## *Агульны сход "Маладога Фронту"*

*14 кастрычніка адбыўся агульны сход сяброў Наваполацкага аддзелу Маладога Фронту. На сходзе былі падведзеныя некаторыя вынікі працы арганіцыі, а таксама праходзіла абмеркаваньне планаў аддзелу на бліжэйшую будучыню. Наваполацкія маладафронтаўцы радзіліся па гэткіх пытаньнях, як уступленьне ў "стары" Фронт, рэгіянальная палітыка аддзелу, г.зн. праца з моладзьдзю ў іншых рэгіёнах вобласьці, дапамога новым маладзёвым аб'яднаньням і больш шчыльнае супрацоўніцтва з тымі, якія існуюць ужо даўно. Асабліва важным пунктам сходу стаўся падзел арганізацыі на адмысловыя структурныя адзінкі, якія будуць адказваць за розныя сфэры дзейнасьці аддзелу, напрыклад, спорт, адукацыя, навука й культура, камунікацыі, тэхніка й г.д. Таксама былі абмеркаваныя шляхі й мэтады працы з новымі сябрамі Маладога Фронту й пытаньне далейшага пашырэньня арганізацыі*

***Гандрусь Стрэмка***

## АФІЦЫЙНАЯ ПЕРАПІСКА

Гражданину Соловьёву Дмитрию Сергеевичу
г.Новополоцк
ул.Молодежная
д.61 кв.63
копия: Прокурору города Новополоцка
Старшему советнику юстиции Зайцеву А.П.

Доводим до Вашего сведения, а в Вашем лице до сведения граждан, подписавших заявление с указанием факта недостойного поведения сотрудниками милиции 3 сентября 1998 года в районе стадиона "Атлант", что по данному факту отделом внутренних дел Новополоцкого горисполкома проведена проверка.

До личного состава, несущего службу по охране общественного порядка в городе, доведены требования нормативных документов о необходимости культурного и вежливого обращения к гражданам.

С учётом непродолжительного срока службы в должности милиционера взвода патрульно-постовой службы (в органах внутренних дел с 14 мая 1998 года) младшему сержанту милиции Шупейко И.Н. строго указано на недопустимость нетактичного поведения.

Начальник Новополоцкого ГОВД
Полковник милиции
Н.Е.Рыбаков

Новополоцкий городской исполнительный комитет
Решение
№793 22.10.98
О заявлении организатора инициативной группы граждан СОЛОВЬЕВА Д.С.

В соответствии с Законом Республики Беларусь от 30.12.97 г. "О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании", решением горисполкома №186 от 04.03.98 г. "Об определении постоянного места для проведения собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетировании", решении №492 от 25.06.98 г. "О внесении изменений в решение исполкома №186 от 04.03.97 г." и, рассмотрев заявление организатора инициативной группы граждан СОЛОВЬЕВА Д.С., Новополоцкий городской исполнительный комитет

РЕШИЛ:

1. Разрешить организатору инициативной группы граждан СОЛОВЬЕВУ Д.С проведение пикета 1 ноября текущего года с 12.00 до 15.00 в городском парке культуры и отдыха у открытой эстрады.

2. Организатору инициативной группы граждан СОЛОВЬЕВУ Д.С., начальнику ГОВД РЫБАКОВУ Н. Е. обеспечить соблюдение условий и порядка проведения пикетирования всоответствии с действующим законодательством.

Председатель исполкома А.В.КОМАРОВ
Управляющий делами исполкома П. П. ГУСАРОВ

## СЕМІНАРЫ

"Вучыцца ніколі ня позна", - пад гэтым дэвізам правялі сярэдзіну верасьня - пачатак кастрычніка сябры Наваполацкай Рады БНФ "Адраджэньне". За гэты час яны прынялі ўдзел у шэрагу даволі прадстаўнічых міжнародных семінараў як у нашай краіне, так і за мяжой.

З 14 па 25 верасьня ў польскім горадзе Шчэцін праходзіў другі з цыклу навучальных сэмінараў для прадстаўнікоў няўрадавых арганізацыяў, на якім прысутнічалі наваполацкія "фронтаўцы" Уладзімер Кунцэвіч і Васіль Главацкіх. На гэтым сэмінары, у працы якога таксама бралі ўдзел прадстаунікі БНФ, АГП і Народнае Грамады з розных рэгіёнаў Беларусі, яны пераймалі каштоўны вопыт вядзеньня перамоваў і прыняцьця парляманцкіх рашэньняў, праслухалі курс лекцыяу па гісторыі разьвіцьця дэмакратычных інстытутаў на Беларусі, сучаснаму становішчу ў нашай краіне, наведвалі заняткі па інтэрактыўных формах навучаньня, мэтадах і формах працы зь людзьмі. Таксама ў рамках сэмінару адбыўся шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі розных палітычных сілаў Польшчы, з адметнымі палітычнымі й грамадзкімі дзеячамі суседняе дзяржавы. Вельмі карысным сэмінар быў і ў плане асабістых кантактаў паміж прадстаўнікамі розных арганізацыяў і рэгіёнаў у самое беларускае дэлегацыі.

Таксама ў Польшчы, але ўжо ў Гданьску з 25 па 27 верасьня праходзіў і Балтыйскі Форум Няўрадавых Ініцыятываў, які сабраў больш за 300 прадстаўнікоў NGO's з Польшчы, Літвы, Латвіі, Швэцыі, Ірляндыі, Нямеччыны. Даволі прадстаўнічай - 21 чалавек - была дэлегацыя Беларусі, у склад якой увайшоў і Старшыня Рады Супольнасьці "Усяслаў Чарадзей" Васіль Храмцоў. Арганізатарам Форуму выступіў Гданьскі Рэгіянальны Цэнтар Інфармацыі й Дапамогі Няўрадавым Арганізацыям. Адным з галоўных пытаньняў Форуму было наступнае: што ёсьць 3-ці Сэктар у працэсе эўрапэйскае інтэграцыі. Вялікую цікавасьць яго ўдзельнікаў выклікала сытуёва з NGO's у нашае краіне й прадстаўнікі беларускіх недзяржаўных арганізацыяў ужо заключылі папярэднія дамовы аб супрацоўніцтве ў рамках некаторых праектаў са сваімі замежнымі калегамі.

Даволі вядомая фундацыя "Эўразія" праводзіла з 28 верасьня па 3 кастрычніка ў Раўбічах сэмінар -трэнінг, на якім разглядалася тэма кіраваньня й рэалізацыі праекту з пункту гледжаньня заходняга мэнэджменту. Курс лекцыяў - усяго 48 гадзінаў - прачыталі вопытныя сьпецыялісты Інстытуту прыватызацыі й мэнэджменту, пасьля чаго ўдзельнікі сэмінару прайшлі тэставаньне, якое вылучыла лепшых слухачоў, што запрошаныя на наступную сэсію. Прыемна адзначыць, што ў іх лік трапіў і старшыня Навполацкае Рады БНФ Віктар Паўловіч, які атрымаў сэртыфікат мэнэджара ў галіне кіраваньня й рэалізацыі праектаў.

А з 2 па 4 кастрычніка ў Менску адбыўся сэмінар па праблемах беларускае незалежнае рэгіянальнае прэсы, на які быў запрошаны й прадстаўнік нашага Інфармацыйнага бюлетэня Андрэй Аляксандраў. Удзельнікі сэмінару абмяркоўвалі праблемы, якія сёньня стаяць перад незалежнымі друкаванымі сродкамі масавае інфармацыі, вучыліся вопыту сваіх польскіх і югаслаўскіх калегаў, а таксама працавалі над стварэньнем Асацыяцыі незалежных выдаўцоў.

матэрыял падрыхтаваў Гандрусь Стрэмка.

## ФОТААРХІЎ

*25.03.96 Наваполацак Плошча Будаўнікоў*



БНР

# Мэмарандум

## Аб гармадзянстве Беларускае Народнае Рэспублікі

Мінула шэсьць гадоў, як няўмольная хада гісторыі зьнішчыла старыя дзяржаўныя арганізмы, даўшы месца новым незалежным краінам. Новыя дзяржавы – нашыя суседзі Латвія, Літва, Польшча, Расея й Украіна – зьведалі смак свабоды, прыкметы новай эканамічнай стабілізацыі і адчуваньне пэрспэктывы. Зазнаючы пэўныя цяжкасьці, яны адбудоўваюць свае нацыянальныя дамы.

Тым часам беларускае грамадзтва, ня маючы пэўных дзяржаватворных арыенціраў, ужо сёмы год стаіць на месцы або спрабуе насуперак гістарычнай лёгіцы вярнуцца ў мінулы час. Гэта прывяло да ўмацаваньня аўтарытарызму, эканамічнага застою, зьбядненьня насельніцтва.

У адрозьненьні ад суседзяў, Рэспубліка Беларусь сама пазбавіла сябе дзяржаўнае пераемнасьці і апынулася па-за гістарычнай пэрспэктывай.

У такой сытуацыі мы зноў зьвяртаемся да ідэі пераемнасьці і шукаем таго палітычнага, маральнага і культурна-цывілізацыйнага апірышча, якое б акумулявала ў сабе пазытыўны патэнцыял грамадзтва і мацавала надзею на лепшую будучыню. Разам з тым яно мусіла б выклікаць чым найменш сумневаў і супярэчнасьцяў – партыйных, сацыяльных, этнічных, рэгіянальных, пабытовых.

Такім апірышчам нам бачыцца ідэя Беларускае Народнае Рэспублікі – нашага натуральнага дзяржаўнага ідэалу.



Ніхай Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!

Наш дом – БНР – нам калісьці так і не далі дабудаваць, прымушаючы жыць у псэўдадзяржаўных утварэньнях. Але ўсе гэтыя фальшывыя "дамы" рассыпаліся пад ветрам гісторыі – ССРБ, ЛітБел, БССР пакінулі сьвет, не пакінуўшы нашчадкаў. Не выглядае трывалаю і сёньняшняя дзяржава – Рэспубліка Беларусь, неаднаразова дэкляраваліся пляны ўліцьця яе то ў Расею, то ў рэанімаваны СССР. Гэткая нетрываласьць РБ пазбаўляе яе грамадзянаў пэрспэктывы разьвіцьця.

Белауская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 году, засталася жыць як ідэя натуральнага дому для ўсіх, хто жыве на нашай зямлі. За ідэю гэтую яе прыхільнікі паміралі на франтох і ў турмах розных дзяржаваў, яе хавалі ў сэрцах у самой Беларусі і дбайна захоўвалі на выгнаньні. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі працягвае сваю дзейнасьць, захоўваючы пераемнасьць незалежнае беларускае дзяржаўнасьці. На сёньняшні дзень гэта адзіная сярод усіх эўрапейскіх краінаў эміграцыйнае дзяржаўнае прадстаўніцтва, якое не перадало сваіх паўнамоцтваў ураду на Бацькаўшчыне – ня маючы гарантыяў захаваньня РБ як незалежнае дзяржавы.

БНР – адзіна дзяржаўная ідэя, якая і да гэтуль ня страціла сваёй жыцьцёвае сілы ды мае сваіх рэальных і патэнцыйных прыхільнікаў, змагароў і спадкаемцаў.

Ідэя БНР – вышэйшая за партыйныя, сацыяльныя, этнічныя й рэлігійныя супярэчнасьці. Яна ня ёсьць ініцыятывай або манаполіяй ніякай паасобнай палітычнай, сацыяльнай, этнічнай групы. Яна належыць усім, хто падзяляе яе ідэалы.

Яе ідэалы абвешчаныя ў трох Устаўных граматах 1918 году, гэткія:

- дэмакратыя;
- нацыянальная дзяржаўнасьць (кожны народ і найкарысьней для сябе разьвіваецца ў рамках сваёй нацыянальнаё дзяржавы);
- натуральнасьць беларускае культуры (Беларусь адзіная ў сьвеце мэтраполія гэтае культуры, абавязак любога народу – захоўваць унікальнасьць сваёй культуры й мовы дзеля захаваньня цэласьці сусьветнае цывілізацыі);
- прыярытэтнасьць беларускай мовы (з прычыны гістарычных абставіну, беларуская мова патрабуе дадатковай падтрымкі, іншыя мовы, маючы поўную свабоду функцыянаваньня ў грамадзтве, не павінны замяняць яе ў пэўных ключавых функцыях – найперш у галіне культуры, асьветы й урадаваньня);
- далучанасьць да рэлігійнай, эўрапейскай і сусьветнай цывілізацыі (Беларусь – Эўропа – сусьвет);
- нутраная й вонкавая цярпімасьць і прыязнасьць (мы адна з рэдкіх краінаў, якая дагэтуль не зазнала ні этнічных, ні рэлігійных канфліктаў).

Ідэя БНР несумяшчальная з гэткімі зьявамі, як:

- таталітірызм (задушэньне дэмакратыі, правоў і свабодаў чалавека);
- ксэнафобія й расізм (этнічная нецярпімасьць, супрацьстаўленьне людзей паводле расавай і этнічнай прыналежнасьці, напрыклад прапаганда "славянскага адзінства");
- каляніяльнае мысьленьне (вера ў тое, што ратунак грамадзтву й індывіду можа прынесьці нейкі правыдыр або замежная дзяржава; адмова самастойна вырашаць свой лёс і браць на сябе грамадзянскую адказнасьць);
- самазьнявага (прыніжэньне нацыянальнай годнасьці беларусаў, адмаўленьне іхнага права на сваю дзяржаву; зьнявага культуры й мовы).

Грамадзяне БНР выбіраюць сваёю будучыняй незалежную й дэмакратычную Дзяржаву.

Кожны, хто з асэнсаваньням уласнае адказнасьці й абавязку гатовы адкрыта выявіць сваю далучанасьць да ідэалаў БНР, мае права стаца ГРАМАДЗЯНІНАМ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ.

Грамадзянства БНР – акрэсьленае, адказнае, надпартыйнае й унівэрсальнае. Цяперашнія лініі падзелу грамадзтва – частковыя й прыватныя.

Акцыя пашырэньня грамадзянства БНР – гэта не гульня ў фантомы й ня вузкае прынагоднае палітычнае мерапрыемства. Гэта вызначэньне трывалых арыентыраў дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі й магчымасьць для ўсіх яе жыхароў зрабіць свой маральны й грамадзянскі выбар.

Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец,
Сяржук Сокалаў-Воюш, Сяргей Шупа

- грамадзяне БНР на моцы пісьмовых заяваў, пададзеных у ліпені 1997 году ў Раду БНР і зацьверджаных ёю.

Вільня-Прага-Менск.
5 ліпеня – 1 сакавіка 1998.

ПАЛІТЫКА

# Зварот да грамадзянаў, арганізацыяў і палітычных партыяў.

# Шаноўныя суайчыньнікі!

Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) - гэта незалежная дзяржава, абвешчаная ў 1918 годзе. Дзяржаунасць Беларусі была адноўлена пасьля больш чым 100-гадовага знаходжаньня нашай краіны ў складзе Расейскай імпэрыі, якая ў канцы 18 стагодзьдзя гвалтам захапіла Вялікае Княства Літоускае. Такім чынам БНР - гэта працяг тысячагадовай беларускай дзяржаунасьці з часоў Полацкага княства.

На паседжаньні Рады БНР у Менску 25 сакавіка 1918г. была прынятая Трэцяя Ўстаўная Грамата, у якой Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнаю дзяржаваю.

Акт 25 сакавіка быў юрыдычным наступствам дзейнасьці Ўсебеларускага кангрэсу - органу прадстаўнічай улады, дэмакратычна скліканага ў сьнежьні 1917 году. Былі створаны дзяржаўныя органы, вызначаныя межы Беларусі. Яшчэ раней на Румынскім фронце й у раёне Адэсы, дзе знаходзіліся пераважна беларусы, пачала фармавацца беларуская армія, каб вярнуцца на Беларусь. Бальшавіцкая ўлада, а потым нямецкая акупацыя перашкодзілі стварыць беларускае войска.

З Актам 25 сакавіка лічыліся шэраг дзяржаваў, якія прызналі незалежнасць Беларусі, у тым ліку Летува, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Украінская Народная Рэспубліка, Чэхаславакія, Турцыя.

Беларуская Народная Рэспубліка не была, аднак, прызнана Германіяй, якая паводле Берасьцейскага мірнага дагавору 3 сакавіка 1918 годзе фактычна падзяліла тэрыторыю Беларусі з савецкай Расеяй. Праўда, і нямецкія акупанты ня здолелі спыніць дзейнасьць Рады БНР і яе ўраду ў галіне адукацыі, культуры, сацыяльнай палітыкі і палітычнай дзейнасьці ўвогуле.

Бальшавіцкі ўрад у Маскве мусіў лічыцца з абвешчаньнем незалежнасьці Беларусі. Пра гэта сьведчыць дзейнасьць у Маскве гэнеральнага консула БНР пры ўрадзе РСФСР А.Бурбіса ў 1918 годзе, дыпляматычныя перамовы паміж БНР і РСФСР у Кіеве, паміж прэм'ер-міністрам БНР А. Луцкевіам і расейскім урадам у лістападзе 1918г. у Маскве. Існаваньне Беларускай Народнай Рэспублікі вымусіла урад У. Ульянава-Леніна, нягледзячы на нежаданьне бальшавікоў прызнаць беларусаў за самастойны народ, пайсьці на стварэньне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь 1 студеня 1919 года.

Пасьля падзелу тэрыторыі Беларусі паміж Савецкай Расеяй і Польшчай у 1920-1921гг. Рада й урад БНР дзейнічалі ў эміграцыі - у Летуве, у Чэхаславакіі, а пасьля 2-й сусьветнай вайны - у Паўночнай Амэрыцы. Рада БНР засталася сымбалем незалежнасьці Беларусі. Яна захавала нацыянальную сымболіку, што сталася ў БНР дзяржаунай-гістарычны герб "Пагоню" і бел-чырвона-белы сьцяг.

Савецкія ўлады спрабавалі ліквідаваць дзейнасьць Рады БНР і ўраду ў эміграцыі. У пастанове ЦК КП(б)Б ад 14 жніўня 1925г. адзначалася неабходнасьць перадачы паўнамоцтваў ад ураду БНР ураду БССР. Спорбы бальшівікоў атрымаць легальныя паўнамоцтвы БНР сьведчаць пра прызнаньне такіх паўнамоцтваў кіраўнікамі БССР, якія тым самым прызналі сваю ўладу нелегітымнаю. Бальшівікам удалося ў кастрычніку 1925 г. перацягнуць у БССР былых прэм'раў В. Ластоускага, А. Цьвікевіча й некалькі міністраў (потым іх рэпрэсавалі). Аднак Рада БНР на чале з прэзыдэнтам Пятром Крачэускім паўнамоцтваў не аддала й працягвала дзейнічаць.

Другая спроба атрымаць легітымныя паўнамоцтвы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі была зробленая ў 1992-1993 гадах урадам В.Кебіча, калі тагачасны міністар замежных справаў П.Краўчанка спрабаваў пераканаць дзеячоў Рады БНР у эміграцыі ў тым, што Рэспубліка Беларусь ёсьць цалкам суверэннай. Аднак Рада БНР адмовілася перадаць паўнамоцтвы з-за неспрыяльных умоваў для незалежнасьці ў самой Беларусі й разуменьня, што дзяржавай кіруе прамаскоўская партыйная наменклатура.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі й цяпер ёсьць легітымным органам беларускае прадстаўнічае ўлады, носьбітам ідэі незалежнасьці Беларусі. Яе дзейнасьць грунтуецца на Ўстаўных граматах БНР і Акце 25 сакавіка 1918 году. Ідэалы БНР - гэта вольная, незалежная, дэмакратычная Беларусь, роўная паміж дзяржавамі, гэта разьвіцьцё беларускага грамдзтва й беларускае нацыянальнае дзяржавы, гэта разьвіцьце беларускай эканомікі, мовы і культуры, паважлівыя ўзаемадачыненьні з суседзямі ды іншымі дзяржавамі ў Эўропе й у Сьвеце.

Сёньня Беларусь ізалююць ад дэмакратычных разьвітых краінаў і прывязваюць да Расеі, у якой адбываецца глыбокі эканамічны крызыс, крыміналізацыя й фашызацыя грамадзства. Дыктатура зьліквідавала Канстытуцыю, гвалтам зьнішчыла законны парлямант і Канстытуцыйны суд, скасавала незалежнасьць суду.

У гэтых умовах мы, прыхільнікі ідэалаў незалежнасьці, свабоднай эканомікі, захаваньня правоў чалавека, абвешчаных нашымі продкамі 80 гадоў назад, людзі, ня згодныя з антыдэмакратычным марыянэткавым рэжымам Лукашэнкі, заяўляем пра жаданьне ўтварыць супольнасьць грамадзянаў БНР.

Ідэя грамадзянства БНР набліжае пэрспэктыву вольнай, незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. 13 сакавіка Прэзыдыюм Рады БНР у адмысловай заяве зазначыў: "людзі, якія працуюць на карысьць ажыцьцяўленьня ідэі беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці, маюць аснову ўважаць сябе за грамадзянаў БНР. Такое сымбалічнае грамадзянства набывае маральнае й палітычнае значэньне, бо процідзеіць нацыянальнае здрадзе, якую праводзіць рэжым дыктатуры Лукашэнкі."

Беларускі Народны Фронт, адчуваючы непасрэдную пагрозу нашай краіне, падтрымаў ініцыятыву сьвядомых грамадзян Беларусі аб далучэньні да грамадзянства БНР. Можа здарыцца так, што гэта будзе адзіная магчымасьць захаваць незалежную Беларусь.

Заклікаем падтрымаць гэты акт добрай волі ўсе дэмакратычныя арганізацыі й партыі Беларусі, а таксама прафсаюзы й няўрадавыя арганізацыіі.

З супольнасьцю грамадзянаў БНР будуць лічыцца ў нашай краіне і ў Сьвеце. Мы здолеем перамагчы акупацыйны рэжым і набыць прыстойнае жыцьцё.

Грамдзяне Беларусі! Незалежна ад Вашых палітычных і канфесійных поглядаў, нацыянальнасьці й полу, далучайцеся да грамадзянства БНР. Нельга змарнаваць пэрспэктыву лепшай будучыні - Вашай і Вашых дзяцей.

Жыве Беларусь!

Жыве вечна!

Сойм БНФ "Адраджэньне"

8.08.98 г.

ГІСТОРЫЯ РАДЗІМЫ

# Самакіраваньне: эўрапейская традыцыя

## *(500-м угодкам былых полацкіх вольнасьцяў прысьвячаецца)*

Эканамічнае й сацыяльнае разьвіцьцё, хуткі рост колькасьці й памераў гарадоў прывялі ў шэрагу краінаў Эўропы да супярэчнасьцяў паміж нормамі права, якія існавалі да таго часу, і патрэбамі жыцьця. Дзеля забесьпячэньня інтэнсіўнага разьвіцьця дзяржавы й ейнага росквіту неабходна было заканадаўча выдзяляць гарады са складаным эканамічным і сацыяльным жыцьцём з агульнае масы й даць ім мажлівасьць вольнага існаваньня. Упершыню паўсталыя перад *грамадзтвам супярэчнасьці былі разьвязаныя на* пачатку XIII стагодзьдзя ў нямеччыне ў Майдэбурку (Магдэбургу) прыняцьцём збору юрыдычных нормаў пад назваю "Weichbild". Нормы Майдэбурскага права сталіся ўзорам для іншых гарадоў Эўропы. Паводле "Weichbild" месьцічы вызваліліся ад феадальных абавязкаў, якія раней несьлі на роўні зь сялянамі. Ім гарантавалася свабода займацца рамяством, гандлем ці земляробствам. Месьцічы мелі права абіраць магістрат (гарадзкую Раду), суд, ствараць цэхі. Магістрат вызначаў віды падаткаў, іхнюю велічыню й разьмяркоўваў выдаткі на агульнагарадзкія патрэбы. Паводле закону біскуп Майдэбурку прызначаў бургграфа (гарадзкога галаву). Фохт (намесьнік) абіраўся месьцічамі й пасьля абраньня прысягаў на вернасьць гораду. "Weichbild" раіў абіраць у ворганы мясцовага самакіраваньня асобаў ва ўзросьце 25-50 гадоў, як найбольш працаздольных. Вартымі гэтае пасады могуць быць людзі паважаныя, набожныя, няпрыхільныя да хлусьні й злосьці. Лепш калі гэтыя людзі будуць сярэдняга дастатку, бо багатыя прызвычаіліся прыгнятаць, а ад бедных ніякай карысьці няма. Як відаць з напісанага, "Weichbild" бачыць надмурак стабільнасьці грамадзтва ў сярэдняй клясе.

Паводле Майдэбурскага права Рада павінна зьбірацца ў ратушы "ня менш чым раз на тыдзень, альбо столькі, колькі патрэбна "дзеля памнажэньня агульнага дабра", прадухіленьня шкоды, разьвязаньня ўзьніклых судовых справаў, прыняцьця захадаў дзеля пазьбяганьня дарагоўлі на харчовыя тавары й напярэджаньня спрэчак, "абараняць удовых і сірацінаў", выкараняць азартныя гульні".

Паступова правы на самакіраваньне пачалі набываць іншыя буйныя гарады Эўропы: Прага (1229); Кракаў (1257); Каралявец (1286); Рыга (1286); Львоў (1356).

Неабходнасьць наданьня вольнасьцяў гарадам пачала ўсьведамляцца кіроўнымі коламі Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) у першай чвэрці XIV стагодзьдзя, бо мы маем пасланьне Вялікага Князя Гедыміна да жыхароў Любэка, Шральзунда, Брэмэна, Магдэбурга, Кёльна датаванае 25 студзеня1323г. У ім князь, заклікаючы нямецкіх майстроў да пераезду ў ВКЛ, абяцаў надзяляць зямлёй і даць гарадам, дзе майстры паселяцца, Майдэбурскае права, вызваліць купцоў ад мыта, а сьвятарам даць цэрквы й свабоду казаньняў. Але толькі яго ўнук, Вялікі Князь Ягайла, пачаў надаваць гарадам ВКЛ нямецкае права замест мясцовага звычаёвага. Так атрымалі вольнасьці Вільня (1387), Бераcьце (1390), Горадня (1391). Тлумачыцца гэта тым, што Вільня была сталіцаю, а Берасьце і Гародня ўласнасьцю Вялікага Князя, які дбаў аб сваім прыбытку. Другая хваля рэформы мясцовага кіраваньня прыпала на часы Вялікага Князя Аляксандра. У 1498 годзе вольнасьці атрымаў Полацак, а ў 1499 – Менск, у 1503 – Ваўкавыск.

Полацак атрымаў Майдэбурскае права адносна позна, пэўна таму, што ад пачатку знаходзіўся ў былым спрыяльным становішчы, якое вызначалася ня толькі традыцыяй Веча, якую князі ВКЛ абяцалі "ня рухаць", але й *міждзяржаўнымі дамовамі, кшталту Полацка з* Рыгаю й Гоцкім берагам 1229, 1264, 1267, 1300, 1330, 1338, 1399, 1407 гадоў, што часткова разьвязвала розныя сацыяльныя супярэчнасьці.

Калі распавядаць падрабязна, структура гарадзкога кіраваньня ў ВКЛ выглядала наступным чынам: на чале гарадзкой Рады (магістрату) стаяў войт, які на пачатку прызначаўся Вялікім Князем пажыцьцёва. У склад магістрату ўваходзілі калектыўныя ворганы: лава й Рада. Рада была ворганам гарадзкога кіраваньня, які вызначаў напрамак разьвіцьця гораду й сродкі для дасягненьня абранае мэты.

У залежнасьці ад памераў гораду колькасьць радцаў (асобаў, што стала працавалі ў Радзе) вагалася ад 6 да 24. Рада была паўнамоцная цягам аднаго году й пасьля грунтоўнае справаздачы фармаваўся новы склад Рады, куды зноўку маглі быць абраныя тыя ж асобы, што былі ў папярэднім складзе.

Рада зацьвярджала статуты мясцовых прафэсійных хаўрусаў: брацтваў, цэхаў, гільдыяў. Рашэньні адміністрацыйных і судовых ворганаў саміх брацтваў падлягалі зацьвярджэньню Радаю. Рада таксама выконвала функцыі судовага воргану ў маёмасных і грамадзянскіх справах. Радцы ў якасьці аплаты працы ў Радзе вызваляліся ад усіх гарадзкіх падаткаў, а ў буйныў гарадах з 1588г. паводле прывілея Вялікага Князя Жыгімонта Аўгуста дзеля павышэньня аўтарытэту Рады ўсім радцам надавалася шляхецтва. Кіраваў паседжаньнямі Рады й быў ейным старшынём бурмістар, які прызначаўся з радцаў гэтак сама тэрмінам на год.

Бурмістар вырашаў бягучыя гарадзкія справы, дробныя спрэчкі й загадваў гарадзкім скарбам. Звычаем абіраліся два бурмістры: адзін грэцкае веры, другі рымскае веры. Зь сяброў Рады абіралася яшчэ адна адмысловая асоба – будаўнічы, які наглядаў за грамадзкімі будынкамі й быў адказным за збор зь іх падаткаў. Падпарадкоўваліся зьбіральнікі падаткаў, якіх у Полацку ў 1650 годзе было сем асобаў, бурмістру. Яны мусілі абыходзіць падаткаплацельшчыкаў і зьбіраць зь іх грошы, а на прыканцы дню здавалі ў гарадзкі скарб усю суму.

Судовым ворганам па ўсіх пытаньнях зьяўлялася лава. Па за кампэтэнцыяй войта й лавы заставаліся зямельныя пытаньні, якія мусіў вырашаць, прыкладам, у Полацку княскі намесьнік, са "старэйшымі полацкімі баярамі паводле старога звычаю". Лаўнікаў у складзе лавы звычаем было 4-12 асобаў. Паседжаньне лавы лічылася правамоцным, калі ў ім бралі ўдзел больш за палову лаўнікаў. Падмуркам для прыняцьця рашэньняў лавы былі, як адзначана вышэй, Майдэбурскае права, звычаёвае права, судзебнік Казімера (1468), Статуты ВКЛ (1529, 1566, 1588). Войт з лаваю зьяўляліся судом *другой інстанцыі ў адносінах да суду* радзецкага. Апэляцыя ж на іхні прысуд падавалася да Вялікага Князя ці, з 1581 году – у Галоўны Трыбунал. Старшынстваваў на паседжаньнях лавы, звычайна, сам войт, які на падставе рашэньняў кожнага з лаўнікаў выносіў агульны прысуд. Даволі часта паседжаньні лавы ўзначальваў намесьнік войта – лентвойт, які войтам прызначаўся й яму падпарадкоўваўся.

Тут трэба адзначыць, што сапраўднага нямецкага права ў гарадох ВКЛ ня ведалі, і яно амаль не скарыстоўвалася. Праўныя асновы самакіраваньня ў нашых гарадох вызначаліся часткова нормамі Майдэбурскага права, мясцовым правам і пазьней Статутамі ВКЛ. Неадпаведнасьць Майдэбурскаму праву была ўжо ад вяршыні піраміды ўлады, бо паводле "Weichbild" на чале мясцовае ўлады стаяў бургграф, якога прызначаў Майдэбурскі архібіскуп. Фохт (войт) узначальваў суд і абіраўся месьцічамі. Пасада лаўніка перадавалася ў спадчыну. Прысуд бургграфа быў канчатковым. У Вялікім жа Княстве Літоўскім




Схема самакіраваньня

войт прызначаўся Вялікім Князем і ўбіраў у сябе функцыі як бургграфа, так і фохта. На прысуд войта была дазволена апэляцыя да Вялікага Князя, што пазбаўляла самакіраваньне завершанасьці. Лаўнікі, у адрозьненьні ад Майдэбурскага права, абіраліся Радаю з ухвалыё сходу грамадзянаў.



Полацак. Сафійскі сабор.

4 кастрычніка 1498 году паводле старога стылю ў Троках (Тракай) у дзень св.Францішка Вялікі Князь Аляксандр, жадаючы "стан места Полацкага палепшыць, каб людзі нашыя, што там жывуць, праз кіраваньне добрае й справядлівае былі размножаныя, тое места нашае з права літоўскага й рускага на права нямецкае майдэбурскае перамяняем на вечныя часы".

У гарадзкой Радзе мусіла быць 20 радцаў, якіх павінен абіраць войт: палову закону рымскага, палову – грэцкага. Тыя ж радцы між сябе разам з войтам павінны штогод абіраць двух бурмістраў, якія супольна з войтам раду чынілі. Падатак за майдэбурскае права, які быў прызначаны ў колькасьці 400 копаў грошай, трэба было штогод здаваць у дзяржаўны скарб на дзень св.Міхайлы (8.XII).

У 1499 гдзе быў выдадзены прывілей аб войтаўскім і намесьніцкіх судах, якім функцыі судоў намесьніка, які ад імя князя кіраваў усёй Полацкай зямлёй, і полацкага войта сталіся надзеленымі. У 1503 годзе Полацку быў нададзены прывілей аб царкоўным судзе полацкага архібіскупа, якім вызначалася кампетэнцыя царкоўнага суду й ягоныя дачыненьні з гарадзкім. Такім чынам цягам пяці гадоў было завершана фармаваньне ў Полацку сыстэмы гарадзкой улады.

Разьвіцьцё сыстэмы кіраваньня ў гарадох Беларусі ад непасрэднага кіраваньня да самакіраваньня адбывалася цягам XVI-XVIIст.ст. Напачатку войт (прызначаны Вялікім Князем), як вынікае з прывілея Полацку, адбіраў сабе радцаў і лаўнікаў, ды зь імі ж бурмістраў. У канцы XVIст. Ужо, як відаць з прывілеяў Дзісьне й Полацку, замацавалася сістэма абраньня сходам кандыдатаў, зь якіх войт абіраў тых, хто яму да спадобы. Так, у Дзісьне з чатырох кандыдатаў войт абіраў сабе лентвойта на год, у Полацку з чатырох кандыдатаў на бурмістраў войт абіраў двух. У першай чвэрці XVIIст., як вынікае з прывілею Воршы (1620), у практыку ўжо ўваходзіла працэдура непасрэднага абраньня сходам (соймам), як сяброў магістрату, так нават і самога войта. Магчымасьць абраньня войта давалася больш разьвітым гарадам і пасада гэтая месьцічамі павінна была выкупляцца. Калі напачатку бурмістры пасьля сканчэньня тэрміну паўнамоцтваў рабілі справаздачу перад Радаю, дык пазьней ужо на гарадзкім сойме. Як вышэй пісана, Рада, як і лава, мела права судовага разгляду справаў. Гэта выклікала злоўжываньні, бо зацікаўленыя асобы накіроўвалі справы туды, дзе чакалі найбольшага спрыяньня. Да таго ж часьцяком справы пасьля разгляду іх Радаю пераходзілі да лавы, што выклікала перагружанасьць судовых ворганаў, марнаваньне грошай падаткаплацельшчыкаў. Таму буйныя гарады часта патрабавалі аб'яднаньня судовых функцыяў Рады й лавы. Так Магілёў у 1636 годзе, Полацк у 1650 годзе дамагаліся зьліцьця радзецкага й лаўніцкага судоў, у выніку чаго судовыя паседжаньні праходзілі сумесна.

Пасьля абраньня, усе кіраўнічыя асобы, апроч войта, прысягалі на вернасьць гораду, бурмістры ж прысягалі й Вялікаму Князю. Войт складаў прысягу толькі Вялікаму Князю. Але з 1527 году ў Полацку засьведчана ўнікальная працэдура прысягі войта гораду, пэўна, як адзнака адметнага стану горада ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Паступова, з набыцьцём гарадамі большае самастойнасьці ўзрасла барадзьба месьцічаў у самім горадзе за кантроль над магістратам пры зборы падаткаў і разьмеркаваньні бюджэтных сродкаў. З запісаў магістрацкіх кніг Берасьця, Полацка, Магілёва відаць, што агульны сход месьцічаў адбіраў дэпутатаў, якія прыймалі справаздачу Рады, тэрмін паўнамоцтваў якой скончыўся. Пазьней, напрыканцы XVIст., пачалі паўставаць сталыя ворганы гарадзкога самакіраваньня каб кантраляваць бюджэт (скарб) – гэтак званыя "прысягальныя паспалітыя", а з XVIIст. у вялікіх гарадах "мужы гмінныя", якія наглядалі за зборам падаткаў і заслухоўвалі справаздачу магістраў. Вядомыя выпадкі даволі бурлівых паседжаньняў.

Не апошнюю ролю ў вырашэньні агульнагарадзкіх справаў працягвалі граць агульныя сходы месьцічаў, соймы, копы, вечы. На іх заслухоўваліся справаздачы бурмістраў, скаргі ў Раду, пастановы аб зборы дадатковых сродкаў, патрабаваньні аб зьняцьці з пасады пэўных службовых асобаў.

Пасьля анэксіі ў 1772 годзе ўсходніх земляў у склад Расейскай імпэрыі былі ўведзены акупацыйныя войскі й усялякія праявы самаарганізацыі месьцічаў спынілі існаваньне. У 1776 годзе на далучаных землях расейскім урадам было адменена майдэбурскае права.

У ацалелай частцы Рэчы Паспалітае чатырохгадовы сойм пастановаю ад 18 красавіка 1791 году зрабіў спробу ўпарадкаваць законы, што да мясцовага самакіраваньня й упарадкаваць суд, але другі (1793) і трэці (1795) падзелы спынілі распачатую рэформу. На ўсёй тэрыторыі Беларусі запанаваў паліцэйскі тэрор, бо кіраваньне ў гарадох рэалізоўвалася праз ворганы паліцыі згодна закону "Устав благочиния" (1782). Толькі з 1885 году паводле "Городового положения" (1780) у беларускіх гарадох пачалі стварацца ворганы мясцовага самакіраваньня – гарадзкія думы. Але ўжо ў 1893 годзе пасьля прыняцьця новага закону, за кошт вялікага выбарчага цэнзу й забароны ўдзельнічаць у выбарах габрэям, якіх на той час у беларускіх гарадох было 50-60 адсоткаў, колькасьць выбаршчыкаў зьменшылася да 1%. Гэтае становішча захоўвалася да 1917 году, калі былі ўтвораныя Саветы працоўных дэпутатаў. Пра дзейнасьць Саветаў, як ворганаў мясцовага самакіраваньня, казаць тут не выпадае, таму што яны мелі дэкаратыўны выгляд.

У нашыя часы з пачаткам працэсу дэмакратызацыі грамадзтва паўсталі й пытаньні разьвіцьця самакіраваньня, як сродку наблізіць уладу да народу (праз залежнасьць ад выбаршчыкаў) і зрабіць яе падкантрольнаю (праз магчымасьць выказваньня недаверу). Цягам 1994-1995 гадоў фондам дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі быў падрыхтаваны шэраг законаў: "Аб мясцовым самакіраваньні", "Аб выбарах мясцовых Саветаў", "Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле", "Аб адміністрацыйным судзе й нагляздзе" і іншыя. Мэтаю была рэалізацыя самакіраваньня й рэформа дзяржаўнага кіраваньня на месцах. Але стрэлка палітычнага барометру хітнулася ў супрацьлеглы бок. Сталася нормаю прызначэньне кіраўнікоў мясцовых выканаўчых ворганаў першай асобай дзяржавы. Што гэта вядзе да свавольства й нерацыянальнага выкарыстаньня бюджэтных сродкаў нават у Расеі зразумелі больш за сто гадоў таму, калі пачалі ўводзіць земствы. Але нашыя "адукаваныя" правадыры не разумеюць гэтага й сёньня. Існуючая сыстэма мясцовае ўлады далёкая ад майдэбурскай, і далёка ня ў лепшы бок. Ня быў праведзены падзел улады на ворганы мясцовага самакіраваньня й ворганы дзяржаўнага кантролю на месцах, ня зьменены тэрытарыяльны пдзел (на сёньня тэрытарыяльныя адзінкі занадта малыя й ня маюць сродкаў дзеля вырашэньня набалелых праблемаў), ня зроблена рэформа падатковае сыстэмы. Лістападаўскі ж 1996 году рэфэрэндум засьведчыў, што ў галіне мясцовага самкіраваньня нашыя грамадзяне сталіся пазбаўленымі таго, чаго іхнія продкі дамагаліся й дамагліся яшчэ ў XVIст., а менавіта магчымасьці абіраць кіраўнікоў мясцовых ворганаў улады й магчымасьці кантраляваць бюджэт.

Кажучы адпаведна з тагачаснай тэрміналёгіяй, не абіраюцца ані войт, ані бурмістр, адсутнічае інстытут прысяглых паспалітых, ды й увогуле, калі хто з шаноўных грамадзянаў "вольнага гораду" чуў справаздачу магістрату?

З гэткімі вось набыткімі прыйшлі да паважнага юбілею.

Міхась Баўтовіч,
сябра БНФ "Адраджэньне"

## ВОСЬМАЯ СТАРОНКА

## Польскае радыё па-беларуску !

У перадачах Беларускай службы вы пачуеце аператыуныя навіны з Польшчы, Беларусі ды Сьвету, каментары на актуальныя тэмы, інтэрв'ю зь цікавымі людзьмі, культурныя рубрыкі, весткі з галіны навукі й тэхнікі, дзіцячыя выпускі. Вы таксама можаце павучыцца польскай мове на радыезанятках, перадаць музычнае прывітаньне ці віншаванне родным і знаемым, паудзельнічаць у разнастайных конкурсах, паслухаць файную музыку...

Перадачы Беларускай секцыі ПР выходзяць некалькі разоў штодня. На кароткіх хвалях беларускамоуныя выпускі з Варшавы можна прымаць тры разы на дзень. Першая перадача ў 14.30 працягваецца 25 хвілінваў, дзьве астатнія ў 16.30 і 20.00 - 55 хвілінаў. Усе перадачы йдуць на хвалях у дыяпазонах 41 м ды 50 м.

Кожны тыдзень у рэдакцыю паступае багата пошты ад радыёаўдыторыі, якая стала пашыраецца.

Напісаць на Польскае радые можаце й вы.

Звязацца з беларускамоўнай службай Польскага радыё можна па адрасах: Юрась Корбан, а/с 5, г.Віцебск, 210038;

Redakcja Bialoruska, Program V, Polskie Radio, skr. Poczt. 46,00-977 Warszawa, Polska/Польшча.

## БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА
## ХВАЛІ І ЧАСТОТЫ

( ад 29 сакавіка 1998 )
18:00-19:30 - 7295, 9610, 11725, 11830, 41.31.25
22:00-23:30- 6105, 7295, 9535, 9750, 49, 41, 31
06:00-07:00-3985, 6065, 7295, 9635, 9750, 75, 49, 41, 31

**У ПРАГРАМЕ**

...мітынгі, дэманстрацыі, страйкі, галадоўкі, пікеты, шэсьці, арышты, суды, турмы, апазыцыя, улада, беларуская мова, рэгіёны, эканоміка, культура., гісторыя, беларусы ў сьвеце...

**СПЭЦЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАДАЧЫ:**

Праскі акцэнт, Вострая Брама, Рэтраспэкцыі, Чытальная заля, Правы чалавека, Блізкая Эўропа, Неабжытая спадчына, Сымбаль веры, Беларускія раздарожжы, Адукацыя за мяжою...

**Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п\с 111**

## СУПОЛЬНАСЬЦЬ

### ЯК ЖЫВЕШ "ЧАРАДЗЕЙ" ?!

Толькі два месяцы прайшло з часу рэгістрацыі Супольнасьці "Усяслаў Чарадзей", але ўжо стала бачна, што працаваць "чарадзеяўцы" зьбіраюцца вельмі сур'ёзна й плённа й калі дасьць Бог ды й цяперашняя ўлада, то й доўга. Кола сяброў за гэты час пашырылася з 12 да 21.

Нават ужо зараз цяжка акрэсьліць усе накірункі ў якіх яны дзейнічаюць.

Гэта тэхнічная й кансультацыйная дапамога няўрадавым арганізацыям рэгіёна, падрыхтоўка да дзейнасьці "Адукацыйнага Цэнтру", удзел у выпуску Інфармацыйнага бюлетэня Наваполацкай Рады БНФ, распаўсюджваньне незалежных выданьняў і г.д. Акрамя таго " чарадзеяўцы " прымалі ўдзел у разнастайных семінарах , у тым ліку і замежных, прадстаўлялі наш рэгіён на Першым Балтыйскім Форуме Няўрадавых Арганізацыяў у Гданьску ( Польшча ), на якім разам з прадстаўнікамі іншых рэгіёнаў Беларусі пазнаёмілі сусьветную супольнасьць з сапраўднымі беларускімі рэаліямі і набылі безьліч неабходных кантактаў з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў Эўропы, што паспрыяе больш шырокай і разнастайнай працы Супольнасьці " Усяслаў Чарадзей "у будучым.

Неабходна пару словаў сказаць і пра пляны "чарадзеяўцаў". Яны безумоўна ёсьць і безумоўна яны вялікія, але як прыхільнік традыцыйнай культуры канкрэтна казаць пра іх нябуду, проста каб не сурочыць, а калі яны зьдзейсьняцца, пра іх можна будзе прачытаць на старонках бюлетэню.

*З павагай, Старшыня Рады Супольнасьці "Усяслаў Чарадзей" Васіль Храмцоў.*

## ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧ!

*Мы толькі пачынаем свой шлях да цябе. І таму нам бы хацелася адразу усталяваць зваротную сувязь. Толькі так наш бюлетэнь стане сапраўды цікавым і карысным для ўсіх прыхільнхкаў адбудовы незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Дыялог у нашым выданьні паспрыяе працы ўсёй арганізацыі Беларускага Народнага Фронту ў Наваполацку. Сёньняшняя ўлада перашкаджае нашым кантактам з шырокай аўдыторыяй, таму часта даводзіцца чуць, што вельмі мала інфармацыі аб дзейнасьці БНФ у горадзе. Але ж праца вядзецца, ніколі не спынялася й будзьце ўпэўнены я – ніколі не спыніцца.*

*Безумоуна мы будзем зьмяшчаць не толькі палітычную інфармацыю, а ўсё, што будзе адбывацца цікавага ў нашым горадзе й яго ваколіцах.*

*Таму мы чакаем вашых лістоў з прапановамі, пытаньнямі й пажаданьням. Дасылайце інфармацыю на адрас, які зьмешчаны на выходных дадзеных нашага бюлетэню.*

***Да хуткай сустрэчы ў наступным нумары.***

***Рэдакцыя бюлетэню***

# НЕКРАЛОГ №1

Месца зарэзервавана.

**Бюлетэнь надрукаваны пры падтрымцы Віцебскай філіі Фонду ім. Л. Сапегі**

*ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ*
*Наваполацкай Рады БНФ*
*Выдавец: Наваполацкая Рада БНФ "Адраджэньне"*
*Галоўны рэдактар: Уладзімір Гацкі*
*Камputарны набор: Уладзімір Куцэвіч*
*Камputарная вёрстка: Павел Дзенісёнак*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*211440 г. Наваполацк а/с 45*
*Наклад: 299 паасобнікаў.*
*Распаўсюджваецца бясплатна на правох рукапісу.*
*Падпісана да друку 29.10.98.*

*За дакладнасць фактаў і лічбаў нясуць адказнасць аўтары.*
*Пры перадрукоўцы спасылка на "БЮЛЕТЭНЬ" абавязковая.*
*Думкі аўтараў могуць не супадаць з меркаваннем рэдакцыі.*